Год IV. Кастрычнік-Лістапад 1935 г. № 10-11 (46-47)

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты еси Петръ, и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. 16.18.

БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



**„Да Злучэньня!“**

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Кастрычнік-Лістапад 1935 г. № 10-11 (46-47).

## Сьвята сьв. Іозафата.

(*12 лістапада*).

Сяньня Каталіцкая Царква ўсходня-славянскага абраду абходзіць сьвята на чэсьць сьвятога сьвяшчэннамучаніка Іозафата.

Сьвяты Іозафат, можна сказаць, найбольш з усіх патрудзіўся над злучэньнем праваслаўных, за гэту ідэю жыцьцё сваё аддаў, быў замучаны ў Віцебску 12 лістапада 1623 году.

Радзіўся сьвяты ў Уладзіміры на Валыні ў 1580 годзе, ад малянкосьці быў вельмі пабожны, потымка, маючы 20 гадоў, уступіў у базыльянскі манастыр у Вільні, каб лепш служыць Богу і каб больш душ дысыдэнскіх прывясьці да злучэньня са сьвятою Каталіцкаю Царквою. Усё сваё жыцьцё працаваў на Беларусі: быў ігуменам у Бытыні і Жыровіцах, архімандрытам у Вільні ды нарэшце ў Полацку архіяпіскапам. Усе свае сілы ўжыў, каб праваслаўных злучыць з Каталіцкаю Царквою. Трудна палічыць, сколькі сьв. Іозафат душ злучыў з Апостальскім Пасадам; ворагі баяліся яго і далі яму прозьвішча „душахвата“, бо запраўды сваімі навукамі, а яшчэ больш сваім сьвятым жыцьцём, ён ня прыцягваў, але як-бы хватаў душы для Бога, для Сьв. Каталіцкае Царквы.

Бачачы вялікую небясьпеку з боку сьвятога Архіяпіскапа для праваслаўнае царквы, ворагі злучэньня пастанавілі забіць сьв. Іозафата. Сьвяты япіскап ведаў, які проці яго маюць намер, аднак не баяўся і далей выпаўняў свае архіпастырскія абавязкі, і далей бязупынна прылучаў праваслаўных да сьв. Уніі.

Дзеля выпаўненьня сваіх абавязкаў паехаў у Віцебск; напалі на сьв. Іозафата праваслаўныя і страшэнным спосабам забілі. Цела сьв. Мучаніка пацягнулі да ракі Дзьвіны і там утапілі. Лепшага доказу хвальшывасьці свайго праваслаўя ворагі сьв. Уніі не маглі знайсьці, як забойства сьв. Архіяпіскапа, які да іх ішоў з вялікаю любоўю ў сэрцы.

Які-ж рэзультат мучаніцкае сьмерці?

Самыя злачынцы прακаналіся ў хвальшывасьці свайго праваслаўя, навярнуліся перад сваёй сьмерцяю. Нават галоўны павадыр іх і галоўны падбурыцель проці сьв. Іозафата Архіяпіскап праваслаўны Мелецы Смотрыцкі навярнуўся і да свае сьмерці шмат працаваў для святое справы Уніі.

Госпад Бог праславіў вялікага барацьбіта за сьвятую Унію, сьв. Іозафата Кунцэвіча, пасьля яго мучаніцкае сьмерці, вялікімі цудамі. Гэтыя цуды паслужылі прычынай, чаму Папа Піус IX ў 1867 годзе залічыў яго да ліку сьвятых.

Ворагі сьв. Уніі думалі, што праз сьмерць сьвятога Полацкага Архіяпіскапа зьніштожаць зусім справу Уніі, аднак-жа, як гісторыя сьведчыць, выйшла наадварот: замест упадку, пасьля сьмерці сьвятога Іозафата, сьвятая Унія пачала пашырацца і ў хуткім часе агарнула ўсю Беларусь і часьць Украіны. Мучаніцкая сьмерць сьвятога Архіяпіскапа не прапала дарма, выдала вялікі плод. Усюды ў нашай старонцы разьвівалася жыцьцё рэлігійнае, народ рабіўся штораз дык лепшым ды шчасьлівейшым. Асабліва два цэнтры праславіліся рэлігійным жыцьцём — Жыровіцы на Беларусі ды Пачаева на Валыні Абодва гэтыя цудоўныя месцы былі ў руках айцоў Базыльянаў, якія галоўным чынам пашыралі і ўзмацоўвалі сьв. Унію.

Чаму-ж цяпер няма ў нашай старонцы сьв. Уніі, чаму ў Жыровіцах і Пачаеве не уніяцкае манашаства, а праваслаўнае? На гэту перамену зла̀жылася 2 прычыны: ашуканства ды гвалт. Маскоўскае праваслаўе, каб пабароць сьв. Унію, ужывала ашуканства, нібыто дбала аб чыстату абраду і баронячы народнасьці, а ўзапраўднасьці заводзіла сваё маскоўскае праваслаўе ды расейскасьць. А калі хто не даваўся ашукацца, дык таго сілком адрывалі ад сьв. Уніі, а накідвалі такому царскую веру. Сколькі перанясьлі нашы дзяды ды прадзеды за веру зьдзекаў, турмаў ды бізуноў казацкіх, гісторыя сьведчыць, ды яшчэ аб гэтым у народзе перахавалася памяць. Вось ня інакш, як толькі сілком, нашыя продкі-уніяты былі зацягнутыя ў Праваслаўе, брутальнаю ды ганебнаю сілаю была здушана на нашай зямлі сьв. Унія. Найдаўжэй трымалася сьв. Унія на Холмшчыне, але і там царскім загадам была скасавана ў 1875 г.

Па скасаваньні сьв. Уніі здавалася ворагам, што яна ўжо ніколі не паўстане, пахована глыбока ў магіле. О не, кроў мучанікаў за веру, асабліва сьв. Іозафата і Блажэннага Андрэя Баболі не прапала надарма! На зямлі, пакропленай іх крывёй, ня можа назаўсёды загінуць сьв. Унія. І запраўды, што-ж мы бачым у нашыя часы? Як-жа ўсё перамянілася пасьля сусьветнае вялікае вайны: няма магутнага царызму, паўсталі новыя дзяржавы, зьмянілася жыцьцё.

З гэтай палітычнай пераменай прыйшлі і перамены рэлігійныя. Паўстае, як з гробу, даўнейшая сьв. Унія ў нашай старонцы, пачалі вяртацца людзі да веры дзядоў і прадзедаў. На Холмшчыне яшчэ жывуць старыя людзі, катарыя добра памятаюць даўнейшую сьв. Унію.

Праўда, не пашыраецца сьвятая Унія так хутка, як хацелася-б і як-бы быць павінна, а гэта таму, што знаходзімся яшчэ ў абставінах вельмі няспрыяючых для разьвіцьця сьв. Уніі. Аднак трэба спадзявацца, што гэтыя абставіны зьменяцца на больш справядлівыя і спрыяючыя сьвятой справе. Мы глыбока мусім верыць ды быць перакананымі, што кроў сьвятых мучанікаў за сьвятую справу не прападзе дарма, сьв. Унія на нашых землях была і будзе.

Якія-ж нашыя абавязкі адносна сьв. Уніі? Апрача глыбокай веры, што сьвятая справа, за якую да Госпада Бога кліча кроў мучанікаў, мусіць затрыумфаваць, мы таксама павінны шчыра маліцца Усемагутнаму Богу праз заступніцтва Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ды Сьв. Іозафата, каб Госпад Бог меў у сваёй Апецы адрадзіўшуюся Сьв. Унію. Калі Госпад Бог пакіруе нашай сьвятой справай, нічога нам не зашкодзяць хітрыя выдумкі нашых няпрыхільнікаў.

Сьв. Іозафат ня толькі зьяўляецца заступнікам перад Богам за сьв. Унію, але таксама ёсьць для нас прыкладам, як трэба працаваць і як трэба цярпець за сьвятую справу. Праўда, мы ня маем такога высокага становішча ў Сьв. Царкве, якое меў сьв. сьвяшчэннамучанік, можа ня маем вялікай магчымасьці шмат зрабіць для злучэньня братоў праваслаўных з Сусьветнай або Каталіцкай Царквой, аднакжа, паводле магчымасьці, кожны мусіць для сьвятой справы працаваць.

Асабліва, за прыкладам сьвятога Іозафата Кунцэвіча, павінны мы быць стойкімі ў часе прасьледаваньня. За сьв. Унію, за веру нашых дзядоў ды прадзедаў, павінны мы быць гатовымі на ўсялякую ахвяру, нават на сьмерць.

Трэба нам памятаць пра словы апошняга багаславенства, якія сказаў сам Госпад наш Ісус Хрыстос у сваёй нагорнай пропаведзі: **„Блаженни есте, егда поносятъ вамъ, и ижденутъ и рекутъ всякъ золъ глаголъ на вы лжуще Мене ради. Радуйтеся и веселитеся, яко мзда ваша многа на небесѣхъ“.** Амін.

*а. Антоні.*



# Пятая Унійная Канфэрэнцыя ў Пінску.

5 і 6 верасьня г. г. адбылася ў Пінску V Унійная Канфэрэнцыя. Канфэрэнцыя гэтага году выпала вельмі ўрачыста, хаця ўчасьнікаў было толькі 70. Прычына, чаму ня было больш учасьнікаў ня іншая, як тая, што ня былі рассыланы асабістыя запросіны, як заўсёды гэта рабілася. Можа не адзін меў ахвоту паехаць, а калі не атрымаў асабістага запрашэньня, не адважыўся паехаць.

Узялі ўдзел ў Канфэрэнцыі і чатыры япіскапы: Іх Праасьв. Яп. Пінскі Казімір Букраба, Апостальскі Візытатар Уладыка Мікалай Чарнэцкі, Яп. К. Міхалькевіч з Вільні ды Яп. Няміра з Пінска.

Ў прэзыдыум увайшлі, апрача вышэйуспомненых япіскапаў: правінцыял айцоў Езуітаў а. Ст. Сопух, праф. Віленскага Унівэрсытэту а. І. Сьвірскі, праф. Львоўскае Акадэміі А. Глінка, а. д-р. Тэадаровіч ЧСВВ ды нованазначаны Рэктар Пінскае Духоўнае Сэмінарыі а. др. А. Пэтрані. На сэкрэтара папрасілі а. праф. А. Неманцэвіча ды клерыка І. Смеяна.

Было прачытана 6 рэфэратаў, пасьля якіх была вельмі цікавая ды ажыўленая дыскусія. Рэфэраты выгаласілі: а. Урбан, рэдактар часопісі „Орієнс“, на тэму: „Задача ды характар палемікі з праваслаўнымі“; а. А. Неманцэвіч, прафэсар з Дубна, на тэму: „Духавенства лацінскага абраду ды унійная праца“; а. Кірыла, праф. з Пінску на тэму: „Заходняе манашаства ды унійная праца“; а. М. Нехай, прафэсар з Любліна, на тэму: „Вера праваслаўных ў ачышчэньне душ па сьмерці“; а. Л. Глінка, прафэсар з Львова, на тэму: „Адзінства Каталіцкае Царквы ды рознасьць абрадаў“; а. І. Сьвірскі, прафэсар з Вільні, на тэму: „Пагляды расейскіх багасловаў на аскетызм“.

У канцы былі вынесены гэткія рэзалюцыі:

1) прасіць а. рэдактара Я. Урбана, каб апрацаваў новую палемічную працу проці праваслаўя;

2) увясьці па прыходах адну нядзелю ў годзе унійную, у якую выясьнялася-б праца унійная ды зьбіраліся-б ахвяры на пашырэньне гэтай сьв. справы;

3) склікаць канфэрэнцыю праз 2 гады ды агранічыць лічбу рэфэратаў, каб даць час на дыскусію.

Пасьля закончаньня канфэрэнцыі шмат учасьнікаў з Іх Праасьвяшч. Яп. М. Чарнэцкім ды Яп. К. Нямірай паехалі на пасьвячэньне храму ўсходня-славянскага абраду ў Любешове.

*а. А. Н.*

О Мануілава.

# Сьв. Альжбета Вэнгерская, ляндграфіня Тюрынгенская.

У 1207 годзе ў замку Вартбург — цэнтры тагочаснага мастацкага і культурнага жыцьця Нямеччыны, пры двары ляндграфа гэрцога Гэрмана Тюрынгенскага адбывалася спаборніцтва вядомых сьпевакоў; адным з судзьдзяў на гэтым спаборніцтве быў вядомы тады сваёю вучонасьцю, любоўю да мастацтва і астралёгіі Клінгзор. Знаходзячыся ўвечары ў мясцовай гасьцінёніцы і выйшаўшы паглядзець на зорнае неба, ён убачыў усходзіўшую, незнаёмую яму датуль, ясную і прыгожую зару; гледзячы на яе, Клінгзор сказаў, што зара гэтая будзе сьвяціць над Вэнгрыяй, Марбургам, а пасьля і над усімі краінамі ды што азначае яна нараджэньне ў гэту ноч у жонкі Вэнгерскага караля Андрэя дачкі Альжбеты, каторая выйдзе замуж за маладзенькага Людвіка, сына ляндграфа Тюрынгенскага Гэрмана. Тыя, хто чуў гэтае прадказаньне, паведамілі аб ім гэрцога Гэрмана і ён, зацікавіўшыся ім, запрасіў Клінгзара на гутарку.

А ў гэту ноч у каралевы Вэнгерскай Гэртруды, паходзіўшай, па жаночай лініі, ад Кароля Вялікага, запраўды нарадзілася дачка і была названа Альжбетаю.

Ужо з самых малых гадоў Альжбеты было заўважана, што дзіця гэта асаблівае: дзяўчынка нязвычайна чутка ўспрыймала ўсё тое, што датычыла рэлігіі і першыя, сказаныя ёю словы, былі словы малітвы.

Пасьля яе зьяўленьня на сьвет, як быццам багаслаўленьне Божае зыйшло на Вэнгрыю: сьціхлі войны, у якія заўсёды ўцягвалася гэтая краіна, і ўнутранае жыцьцё яе пайшло больш мірна.

Тымчасам ляндграф Гэрман вельмі цікавіўся, ці апраўдалася прадказаньне Клінгзара. Ад прыбываўшых з Вэнгрыі падарожных ён даведаўся, што запраўды ў караля Андрэя ў тую ноч нарадзілася дачка, што яна была нязвычайным дзіцянём, што адбылося нават выздараўленьне сьляпога, які дакрануўся да яе. Ляндграф помніў і другую часьць прадказаньня аб тым, што сын яго Людвік ажэніцца з дачкою Вэнгерскага караля. Ён злажыў пасольства з графа Мульбэрга, віначэрпія Варыллы і аднае прыдворнае дамы; гэтыя людзі павінны былі ня толькі запрапанаваць, ад яго імя, чатырохгадовай Альжбеце ўзяць шлюб з яго адзінаццацьгадовым сынам, але, у выпадку згоды, зараз-жа прывязьці нявесту ў замак Вартбург. Пасольства было ўрачыста спаткана ў Прэсбургу, а затым кароль Ан-

дрэй склікаў сваіх прыдворных, каб спытацца ў іх рады, ці згадзіцца яму на прапазыцыю ляндграфа. У радзе гэтай быў і Клінгзор, які асабліва дамагаўся згоды на шлюб Людвіка з Альжбетаю, выхваляючы самога ляндграфа, яго магутнасьць і багацьце, а таксама і яго сына. Каралева Гэртруда далучылася да Клінгзара, ня гледзячы на тое, што ёй вельмі цяжка было расставацца з маленькаю дачкою.

Заручыны адбыліся і былі ўрачыста адсьвяткованы. Маленечкую Альжбету прынясьлі ў дарагой вопратцы, вышытай золатам, і палажылі ў калыску з масыўнага серабра. Кароль даручыў дачку асаблівай руплівасьці вінаочэрпія Варыллы, каторы абяцаў быць верным маленькай прынцэсе. Каралева залівалася сьлязьмі, расстаючыся з дачкою.

Пасольства было багата абдарана Вэнгерскім каралём шмат падаркаў было паслана і бацьком жаніха, так што замест двух экіпажаў, у якіх яно прыехала, цяпер іх спатрэбілася трынаццаць. Каралева дала дачцэ ў пасаг тысячу марак — вялізарныя на той час грошы.

Ляндграф Гэрман і жонка яго Зофія былі вельмі рады, што іх жаданьне споўнілася; разам з Людвікам яны спусьціліся з замку Вартбургу ў Эйзэнах, каб сустрэць нявесту, пасьля чаго былі ўладжаны пышныя ўрачыстасьці ў чэсьць заручынаў гэтых дзяцей. З гэтага часу маленькая Альжбета не расставалася з сваім будучым мужам; яна расла разам з ім і паміж імі была наймацнейшая дзіцячая дружба. Яны называлі сябе братам і сястрою дый ня толькі ў гэты час, але і пасьля, калі сталі мужам і жонкаю.

Цераз два гады пасьля перасяленьня Альжбеты ў Тюрынген маці яе была забіта жорсткім спосабам: мусі гэта была змова проці караля. Каралева Гэртруда дала магчымасьць каралю схавацца, а сама засталася ў руках змоўнікаў. Гэтае страшнае здарэньне налажыла пануры цень на дзіцячыя гады маленечкай Альжбеты.

Ляндграф Гэрман выбраў сем дзяўчын з лепшых сем'яў, каб узгадоўваць іх разам з нявестаю свайго сына; сярод іх была і яго ўласная дачка Агнеса ды адна дзяўчына на імя Гута, каторая не пакідала Альжбеты да самага скону яе і ў будучыні сьведчыла перад сьв. Пасадам пра малыя гады сьвятое.

Ня гледзячы на тое, што Альжбета была яшчэ дзіцянём, усе яе думкі і імкненьні былі скірованы на служэньне Богу. Яна часта хадзіла ў царкву і заўсёды брала з сабою малітвенік, хоць яшчэ ня ўмела чытаць; у сваіх дзіцячых гульнях яна, паддзыгаючы на аднэй ножцы, рабіла так, што і яна і яе дружкі апыняліся каля капліцы. Дзеля таго, што дзьверы ў капліцы былі замкнёныя, Альжбета набожна цалавала парог і шчыліну ад замка. Яна ахвотна абкружала сябе беднымі дзяцьмі, памагала ім, чым магла, і нават зьбі-

рала для іх на кухні астачу яды. З сьвятых яна асабліва любіла і паважала Апостала Іоана і выбрала яго сваім патронам.

Калі Альжбеце споўнілася восем гадоў, памёр ляндграф Гэрман і кіраваць Тюрынгенам пачаў 16-цьгадовы Людвік. Гэрцог Гэрман вельмі любіў маленькую Альжбету, спачуваў ёй у яе рэлігійнасьці і пакуль ён жыў, дык і ёй жылося добра. Пасьля яго сьмерці гэта зьмянілася, бо гэрцагіня Зофія і дачка яе Агнеса зусім не разумелі Альжбеты. Яна ня любіла багацьця і пышнасьці, ня любіла хараша апранацца; яна лічыла лепшым быць у таварыстве бедных і нікому невядомых людзей, чымсь сярод сваіх дружкаў. Агнеса шчыра сьмяялася з яе, кажучы, што яна здольна быць толькі служанкаю. Людвік, хоць і адносіўся паранейшаму добра да свае нявесты, але, мусі праз сваю маладасьць, ня мог пярэчыць матцы. Іншыя дружкі Альжбеты, а нават і рыцары сьмяяліся з яе, не саромячыся ўжываць пры гэтым грубыя словы лайкі, і дзеля гэтага маленькая прынцэса ўсё больш ды больш аддалялася ад іх таварыства і гуляла з беднымі дзяцьмі, раздаючы ім міласьціну; з нязвычайнай пакорнасьцю цярпела яна насьмешкі і асуды ды чэрпала ў малітве новыя сілы дзеля служэньня Богу. Аднойчы ў сьвята Усьпеньня Божае Маці гэрцагіня Зофія з дачкою і Альжбетаю спусьціліся ў Эйзэнах у царкву. усе, па жаданьню ляндграфіні, апраненыя ў дарагія вопраткі, мантыі, з каронамі на галовах. Ледзь толькі сьв. Альжбета ўвайшла ў царкву і ўбачыла перад сабою Расьпяцьце, як жах і гора, пры паглядзе на мукі Збавіцеля, з гэткаю сілаю ахапіў яе, што яна зьняла сваю карону і ўпала ніцьма перад Расьпяцьцем, молячыся і плачучы.

Бачачы гэта, гэрцагіня Зофія зрабіла ёй вострую ўвагу, пачала сьмяяцца з яе, але Альжбета пакорна адказала, што яна ня можа зрабіць іначай, гледзячы на мукі Ісуса Хрыста ў цярнёвым вянку, і малілася далей, затуляючы твар мантыяй і абліваючы яе сьлязьмі. Гэрцагіня Зофія з Агнесаю мусілі, хоць-бы для вока, рабіць тое самае, каб не адрозьнівацца ад сьвятое Альжбеты. Гэты выпадак яшчэ больш узмацніў гнеў гэрцагіні; яна папікала сваю будучую нявестку беднасьцю, пагражала адаслаць яе назад у Вэнгрыю; Агнеса ўтаравала матцы. Адзіным другам маладое дзяўчыны быў у гэты час яе жаніх Людвік, і яго любоў і ласка рабіла яе шчасьліваю; аднак-жа сустрачаліся яны тайна, каб маці яго ня ведала і не загневалася. Людвік часта бываў у разьездах, тады нявеста яго была зусім адна. Вялікай радасьцю было для яе тое, што яе „брат“, вяртаючыся, заўсёды прывозіў ёй што-нібудзь, які-нібудзь маленечкі падарак, крыжык, абразок, рукавічкі, заўсёды штонібудзь харошае і каштоўнае. Калі ён вяртаўся, дык яна

заўсёды бегла яму насустрэчу. Але вось аднойчы, абкружаны, у часеаднае падарожы, шмат якімі чужаземнымі вяльможамі, ён забыўся прывязьці ёй што-нібудзь. Гэта страшэнна ўцешыла яе ворагаў, а ёй прычыніла гора. Альжбета зьвярнулася па помач да віначэрпія Варыллы, каторы цьвёрда дзяржаў слова, данае каралю Андрэю, і заўсёды заступаўся за сьв. Альжбету.

Аднойчы, у часе паляваньня, застаўшыся сам на сам з Людвікам, Варылла спытаўся ў яго, як ён адносіцца да Альжбеты: ці любіць ён яе, ці зьбіраецца ажаніцца з ёю, ці хоча адправіць яе да яе бацькі, як таго жадае гэрцагіня Зофія? Людвік, незадумваючыся, адказаў, што любіць Альжбету ўсёю душою, што не аддасьць яе ні за якія царствы і багацьці сьвету і бязумоўна ажэніцца з ёю. Ён выняў з партаманэта маленечкае люстарка, пад якім быў схованы абраз Ісуса Хрыста, і загадаў Варылле перадаць Альжбеце і яго словы і гэтую рэч. Альжбета была шчасьл вая.

Калі ляндграфу Людвіку было 18 гадоў, яго пасьвяцілі ў рыцары, а праз два гады ён павянчаўся з Альжбетаю, каторай было толькі 12 гадоў. Шлюб гэты быў вельмі шчасьлівым і гармонійным: абое маладыя былі надта прыгожыя. Альжбета горача любіла свайго мужа і вельмі цікава тое, што злучала яна ў сабе высокую духоўнасьць, імкненьне да Бога, малітвеннасьць з поўнаю, усебаковаю любоўю да мужа. Яна накладала на сябе строгія пасты, кармілася часта толькі хлебам і вадою, пад раскошнай адзежай насіла валасяную вопратку, уставала ўночы і доўга малілася, ня гледзячы на гэткую моцную ўтому, што іншы раз сон ахапляў яе на падлозе. Людвік любіў сваю жонку ня менш, як яна яго, і ня толькі за яе хараство, але і за яе духоўнасьць ды імкненьне служыць Богу; у гэтым ён востра адрозьніваўся ад свае маці і сястры. Любоў яго была гэткаю моцнаю, што ён браў з сабою жонку блізка што ўва ўсе свае падарожы, толькі ў тых выпадках, калі падарожы гэтыя былі вельмі доўгімі і далёкімі, яна заставалася адна. Тады яна апранала шэрую вопратку ўдоваў і ўся аддавалася дабрадзейнасьці. Яна адведвала бедных і хворых у іх хацінах, абмывала і апранала памёршых, удома прала воўну на вопратку бедным і сама шыла гэту вопратку. З асаблівай старанпівасьцю яна даглядала пракажаных, абмываючы і нават цалуючы іх язвы і раны. У Вялікі Чацьвер мыла ногі 12-цём пракажаным, падобна да таго, як Ісус Хрыстос мыў ногі апосталам.

Калі маладой гэрцагіні споўнілася 17 гадоў, ад яе аддалілі яе духоўніка і ляндграф Людвік зьвярнуўся да Папы з просьбаю назначыць яго жонцы іншага духоўнага кіраўніка. Папа назваў сьвяшчэньніка Канрада з Марбургу. Канрад быў вядомы сваім скромным і праведным жыцьцём,

а таксама агністымі прамовамі, каторымі ён асуджваў грахі свае паствы.

Духоўнае кіраўніцтва Канрада выказалася спачатку ў тым, што Альжбета павінна была даць два абеты: 1) поўнай паслухмянасьці яму, за выняткам таго, што магло-бісьці ў разрэз з воляю яе мужа, 2) абет цэламудрыя ў выпадку, калі-б ёй суджана было аўдавець. Абодва гэтыя абеты яна дала са згоды Людвіка.

Дзіўна-мілыя і прыгожыя расказы пра розныя цуды, якія адбываліся на шляху сьв. Альжбеты. Хутка пасьля яе вясельля, з Вэнгрыі прыехалі прыбліжаныя яе бацькі, пабачыць яе і даведацца пра яе жыцьцё. Гэрцог Людвік засумаваў, таму што ў яго жонкі ня было дарагой харошай адзежы — яна ўсё раздавала бедным, а ён ніколі ёй у гэтым не перашкаджаў. Альжбета апранулася, як магла лепш, і горача памалілася аб тым, каб Бог памог ёй спадабацца гэтым прыбліжаным яе бацькі. І запраўды яна ачаравала іх ня толькі сваім характвом і мілым ласкавым абходжаньнем, але і прыгожасьцю свае адзежы: на ёй была блакітная машастовая мантыя, вышытая жомчугам, так што муж яе ня верыў сваім вачом. Калі госьці, якіх ён шчодра абдарыў, ад'ехалі, дык гэрцог спытаўся ў жонкі, як яна змагла гэтак багата апрануцца?

— Бачыш, што можа зрабіць Госпад, калі гэта яму падабаецца, — адказала яна з ціхаю ўсьмешкаю. Аднойчы, калі ня было Людвіка, Альжбета, як звычайна, шчодра памагаўшая бедным, ішла горнаю дарогаю і сама нясла кошык з рознымі харчовымі прыпасамі для бедных; раптам зусім неспадзявана яна сустрэлася з мужам, каторы вяртаўся дамоў тою самаю дарогаю, і раней, чымсь яна чакала яго. Гэрцог вельмі зьдзівіўся, убачыўшы жонку ў горах з нейкаю ношаю і захацеў паглядзець, што ў яе ў кошыку. Альжбета стрывожылася, баючыся, што ён будзе нездаволены, але калі ён падняў пакрывала на кошыку, дык абое яны былі зьдзіўлены, убачыўшы, што кошык поўны прыгожых рожаў, што было асабліва дзіўным, бо ўсё гэта адбывалася зімою і нідзе нельга было знайсьці цьвіўшых рожаў.

У 1222 годзе ляндграф разам з жонкаю паехаў у госьці да караля Андрэя, з прычыны яго другое жаніцьбы; іх прынялі ў Вэнгрыі з вялікаю радасьцю і бацька абдарыў Альжбету шмат якімі каштоўнасьцямі.

Хутка пасьля іх павароту Людвік спраўляў вясельле свае сястры Агнесы з гэрцагам Аўстрыйскім Гэнрыхам. У Вартбург сабралася шмат гасьцей і былі вклікія ўрачыстасьці. Аднойчы, калі ўсе сабраліся на ўрачысты абед, дык заўважылі адсутнасьць гэрцагіні Альжбеты, каторая не зьявілася, згодна з тагочасным звычаем, вымыць перад абедам рукі разам з сваімі гасьцямі. Госьці не хацелі сядаць

за стол без гаспадыні, а яна ўсё не зьяўлялася. Яна тымчасам, вяртаючыся з царквы, убачыла, пры ўваходзе ў замак, жабрака блізка што бяз ніякае вопраткі, вельмі хворага і слабога. Ён прасіў у Альжбеты міласьціны, але яна адмовіла, кажучы, што ёй няма часу і што яна прышле яму чаго-нібудзь есьці. Жабрак ня сьціхаў і ўсё прасіў голасна. Тады гэрцагіня скінула сваю каштоўную шаўковую мантыю і аддала яе жабраку, каторы схапіў яе і ўцёк. Альжбета засталася ў адной вопратцы, а тымчасам зьяўляцца бяз мантыі ў таварыстве ў тыя часы лічылася немагчымым і яна, ня маючы іншае адзежы, ня ведала, што ёй рабіць. Сэнэшаль, які ўсё гэта бачыў, пажаліўся Людвіку на тое, як маладая гэрцагіня абыходзіцца з сваімі рэчамі. Людвік, заўсёды трымаўшы старану жонкі, сьмяючыся пайшоў па яе. Калі яна расказала мужу, куды падзелася яе мантыя, дык служанка, чуўшая яе расказ, заўважыла, што яна толькі што бачыла мантыю ў шафе. Альжбета была зьдзіўлена гэткім цудам, каторым Бог выказаў ёй сваю міласьць, і пайшла да гасьцей у такой, як трэба, адзежы.

*(Канец будзе).*

---

# Пасьвячэньне катал. сьвятыні ў Любешове.

У Любешове ля Янова-Падляскага 7 верасьня г. г. адбылося ўрачыстае пасьвячэньне новазбудованае сьвятыні. На пасьвячэньне прыехаў Я. Пр. Япіскап Мікалай Чарнэцкі, Я. Пр. Япіскап К. Няміра ды шмат сьвяшчэньнікаў абодвух абрадаў, усіх больш як 40 чалавек.

6 верасьня закончылася унійная канфэрэнцыя ў Пінску, большая часьць учасьнікаў канфэрэнцыі паехала да Любешова на пасьвячэньне сьвятыні, збудованай айцамі Капуцынамі. З Янова-Падляскага трэба было ехаць вузкакалейкай. Здарыўся няпрыемны выпадак: той вагон цягніка, у каторым ехалі япіскапы ды старшае духавенства, зыйшоў з рэльсаў, вагон вельмі затросься, бо паехаў па шпалах, на шчасьце гэта было ўжо ля станцыі Любешоў, кандуктар затрымаў цягнік і такім чынам абышлося без катастрофы.

Пасьвяціў сьвятыню Я. Пр. Япіскап Мікалай у прысутнасьці Я. Пр. Яп. Няміры ды духавенства. Людзей было ня так многа, бо быў будні дзень ды непагода. Прамовіў Япіскап Мікалай, а ў часе Сьв. Прычасьця Япіскап лацінскага абраду К. Няміра.

Апрача прыгожага мураванага храму, айцы Капуцыны ў Любешове збудавалі харошы ды вялікі кляштар, шмат пакояў, каля 60. Кожны, хто пабачыў гэты храм ды прыгожы кляштар, вельмі быў зьдзіўлены, скуль айцы Капуцыны ўзялі грошы, каб выбудаваць такі кляштар. Кожны уніят або прыхільны да унійнае працы вельмі цешыўся, бо пабачыў перад сабою вялікую ды магутную крэпасьць у барацьбе за Сьв. Унію. Ужо пачалася работа: айцы Капуцыны маюць школу для хлопцаў, якія жадаюць працаваць, як місіянэры-сьвяшчэньнікі ўсходняга абраду. Ужо іх ёсьць каля 20, можна спадзявацца, што з часам з Любешова шмат выйдзе добрых місіянэраў-барацьбітаў, якія пашыраць Сьв. Унію. Дзякаваць Богу, справа унійная, незважаючы на перашкоды, ідзе хутка ўперад.

*а. Антоні.*

---

# З Дубненскай Сэмінарыі.

Папская Ўсходняя Сэмінарыя ў Дубне пачала 11 верасьня ўжо пяты год свайго існаваньня.

У гэтым годзе, як і леташ, мае быць 42 гадунцоў, у гэтым ліку адзін сьвяшчэньнік ды адзін дыякан.

Вялікаю навіною ў сэмінарыі ёсьць абноўленая цалкам сэмінарская капліца. Артыстычна, вельмі прыгожа памалёвана ўся, дадзена новая паркетная падлога. Кожны, хто ўваходзіць у капліцу, адчувае, што тутака ёсьць месца сьвятое.

Навіною зьяўляецца і тое, што ў гэтым годзе будзе ў дубненскай сэмінарыі 2 гадунцоў, якія належаць да Лэмкаўскай Адміністрацыі. Сэмінарыя яшчэ больш зрабілася міжнароднай, бо ўжо мае аднаго расейца ды аднаго эстонца.

Гадунцы самі, бяз помачы прафэсароў, маюць выдаваць далей часопісь сваю ў розных мовах («Друг»); на рэдактара выбраны Віктар Мароз.

Зьвернена большая ўвага на сьпеў. Прафэсарам сьпеву назначаны добры знаўца сьпеву ды кампазытар а. Я. Варшаўскі, апрача яго мае вучыць, асабліва ўсходня-славянскага сьпеву, вельмі здольны дырыгент п. Новахацкі.

Дзеля практыкаваньня ў розных мовах, так патрэбных для місіянэраў усходня славянскага абраду, нованазначаны айцец духоўны дае штодзень тэму да разважаньня ў чатырох розных мовах: папольску, пабеларуску, парасейску ды паукраінску, кожны тыдзень у іншай мове.

Досыць багатая бібліятэка даведзена ўжо да парадку; яна мае больш як 10 тысяч кніжак. Можна лёгка знайсьці патрэбную кніжку, бо ёсьць 2 картатэкі — паводле альфабэту аўтароў ды рэчовы. *Н.*

# Наш адказ.

Варшаўскае „Слово," асноўваючыся на інфармацыі „КАП" ды украінскага „Діла," у № 37 (322) піша цэлы вялікі артыкул аб V Унійнай Канфэрэнцыі ў Пінску.

Інфармацыя правідловая, але вывады, якія аўтор артыкулу зрабіў, ды выясьненьні зусім не згаджаюцца з праўдаю, а нават са здаровым розумам.

1. Старшынёй канфэрэнцыі быў Я. Пр. Япіскап Букраба. У сваёй першай прывітальнай прамове, пасьля Сьв Літургіі, Уладыка Казімір заахвочваў учасьнікаў канфэрэнцыі да працы над злучэньнем хрысьціян для Сьв. Уніі. Гэта ідэя, каб усе былі адно „выйшла, — кажа Уладыка,— з сэрца Боскага Збаўцы." Варшаўскае „Слово," прыводзячы словы Уладыкі, дадае ад сябе: „якобы." Маленькі дадатак, а многа значыць. Праз гэты дадатак аўтор артыкулу хоча сказаць, што словы аб злучэньні, каб усе былі адно ня выйшлі з сэрца Збаўцы, а іх выдумаў Япіскап Казімір; ня выдумаў іх Праасьвяшчэнны Казімір, запісаныя гэтыя словы маем у сьвятым Эв., Іоан 17, 21., калі хто ня верыць, можа пераканацца.

2. Далей варшаўскае „Слово" прыводзіць за „Ділом" вынятак з рэфэрату а. Праф. Л. Глінкі такі: „у уніяцкага работніка ёсьць толькі адна задача — навярнуць нязлучаных братоў да каталіцкай веры — пакідаючы ім поўную свабоду адносна да абраду." Які-ж вывад з гэтых слоў робіць аўтор артыкулу? — „Як бачаць чытачы,—піша ён,—нават такія здавалася б моцныя ў сваіх пераканаsuccessьнях уніяты, як прафэсары духоўнай акадэміі, лічаць неабходнай ды адзінай задачай Уніі і ўсяе уніяцкае працы **навярненьне да чыстага каталіцтва, як такога"**. Што разумее пад чыстым каталіцтвам аўтор артыкулу тлумачаць далейшыя словы: «адрачэньне ад сваіх вераіспаведных ды абрадавых розьніц ды поўнае зьліцьцё з Каталіцтвам». Інакш кажучы, аўтор артыкулу разумее пад чыстым Каталіцтвам толькі Каталіцтва лацінскага абраду. Дзіўна бесталковы ды неразумны вывад, дзіўнае запраўды выясьненьне зусім ясных слоў а. праф. Глінкі. А праф. Глінка ў сваім рэфэраце якраз стараўся бараніць рознасьць абрадаў, даводзіў, што праўдзівае каталіцтва можа быць усходняга абраду, розьніца абрадаў каталіцкасьці не перашкаджае. Варшаўскае „Слово" зусім інакш разумее і выйшла недарэчнасьць. Тут прыпамінаецца мне пропаведзь аднаго сьвяшчэньніка ў царкве, які тое, што чалавек не паходзіць ад малпы, стараўся даказаць тым, што навука Дарвіна ёсьць хвальшывая. Слухала гэтае навукі адна жанчына, прыходзіць да хаты ды кажа: «Ведаеце што, сягодня сьвяшчэньнік навучаў, што

чалавек паходзіць ад малпы». Як гэтая жанчына, так сама і аўтор артыкулу ў „Слове“ зразумеў словы а. праф. Глінкі.

3. Дзеля таго, каб даць месца на дыскусію, канфэрэнцыя вынясла рэзалюцыю, каб ня ставіць на адзін дзень шмат рэфэратаў, даволі будзе 3-х. І з гэтай пастановы выводзіць аўтор артыкулу хвальшывы вывад, быццам канфэрэцыя лічыць рэфэраты зусім непатрэбнымі. Каб былі непатрэбныя, то ня было-б патрэбы і 3 рэфэратаў, ня было-б зусім патрэбы і зьяжджацца на канфэрэнцыю. Пэўна, што для праваслаўных ня толькі што не патрэбныя унійныя канфэрэнцыі, але нават вельмі непажаданыя, але для нас патрэбныя.

*Злучэнец.*

---

## *МУДРЫЯ ДУМКІ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ.*

*1. ІСААК Н'ЮТОН: „Вучоныя падобны да дзяцей, што гуляюць на беразе акіяну — Вечнасьці".*

*2. КАРЛЕЙЛЬ піша: „Рэлігія ёсьць найвышэйшая форма адносін чалавека да сьвету. І калі чалавек адмаўляецца прызнаць тую неапісальную сьвятую глыбіню, да якое і ён сам і сьветы належаць, — доля яго — цемната“.*

*3. Лёрд БЭКОН: „Крыха веды аддаляе ад Бога, — праўдзівая навука зьбліжае да Яго“.*

*4. СОФОКЛЕС: „Адна душа, але поўная любові ў малітве варта тысячы“.*



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Ахвяра дзіцяці.

Пасьля сусьветнай вайны шмат людзей мусіла перабірацца з вялікіх гарадоў у малыя мястэчкі, шукаючы заработку. Паміж іншымі перабраўся ў глухое мястэчка і адзін сьлесар. Ён меў свой варстат і працаваў шчыра з раніцы аж да поўначы ня толькі ў будні, але і ў сьвяты, якіх ён не прызнаваў, бо ў душу яго запала нявера. Ведаў ён адно толькі сьвята: „соцыялістычныя зборкі“. Ён першы ка-

лісь залажыў на аднэй фабрыцы соцыялістычны саюз, у якім працаваў з вялікай ахвярнасьцю.

Жонка яго была гэткаю самаю працавітаю, як ён, і толькі адрозьнівалася ад яго рэлігійнасьцю. Яна часта са сьлязьмі на вачох прасіла Бога аб навярненьні мужа.

У іх было двое дзетак. Сынок удаўся ў бацьку: ня любіў царквы і малітвы, якую гаварыў неахвотна толькі тады, калі яго змушала маці. Рэлігійныя навукі ня йшлі яму ў галаву, хоць ува ўсім іншым быў ён вельмі здольны.

Сястронка яго ішла сьледам за маткаю. Часта малілася перад абразом Ісуса Хрыста, а ў малітве вылівала ўвесь боль душы свае па тым, што яе бацька ня ходзіць у царкву ды насьмяхаецца з сьвяшчэньнікаў, службы Божае і рэлігіі. Плакала яна і таму, што брацік яе ня хоча вучыцца рэлігіі, ня думае пра малітву і блага пaступае.

Часта бачыў бацька яе, як малілася яна з вачыма, скіраванымі на абраз Сьв. Сэрца Ісусавага і думаў, што гэтак павінны выглядаць ангелы, ды ўсё больш і больш любіў сваё дзіця, адчуваючы, што быццам нават жыцьцё за яго аддаў-бы. Аднак спакойна схіляўся над працаю, нічым ня выказваючы гэтае любові.

Раптам у гэта роўнае жыцьцё як-бы гром ударыў: пашыраная ў месьце чорная воспа не абмінула і хаткі ціхай працы. Спачатку захварэў сын, а пасьля й любая дачушка.

І хоць боль разьдзіраў сэрца бацькі, ён працаваў быццам спакойна. Толькі паважней неяк ды сумней пaглядалі яго вочы.

Хвароба зусім аслабіла дзяўчынку і яна была, як перад сконам. Абнімала сваю маму за шыю і паціху шаптала ў вуха просьбу сваю, каб паклікалі сьвяшчэньніка, бо яна хоча выспаведацца і прыняць першае і апошняе Сьвятое Прычасьце. Толькі сьлёзы паказваліся на вачох маткі і сэрца залівалася крывёю, бо ведала, што бацька ня згодзіцца на тое, каб да іх у хату прыйшоў сьвяшчэньнік.

Аднойчы, калі дачушка вельмі дамагалася, дык маці, набраўшыся адвагі, сказала бацькаві пра гэткае гарачае жаданьне дзіцяці. Бацька спакойна глянуў і сказаў:

— Пакуль я жыву, ніводзін поп да мяне на парог ня ступіць. Дый гэта ўсё роўна ня дасьць ёй жыцьця. Калі трэба памёрці, дык і так памрэ.

Маці ў роспачы адыйшла, але дачушцы нічога пра гэта не сказала. Аднак дзяўчынка, бачачы сьлёзы ў вачох маткі, дагадалася, што бацька ня хоча згадзіцца. З таго часу сьціхла і ляжала нярухома, молячыся за навярненьне таты і **складаючы Богу ў ахвяру за гэта жыцьцё сваё.**

Праз некалькі дзён, ціха, як ангел, адыходзіла на той сьвет. Маці збудзіла бацьку і абое яны, са сьпёртым духам у грудзёх, глядзелі на гэтае паціху дагараўшае жыцьцё...

Калі дачушка памёрла, дык бацька пачуў, што ў сэрцы яго як быццам нешта лопнула. Хадзіў па хаце, як няпрытомны, ня плакаў, толькі часам спазматычна пакрыкваў, біўся галавою аб сьцяну ды зноў хадзіў шырокімі шагамі, спусьціўшы голаў і зьнямеўшы.

На другі дзень заказаў на могільніку зацішнае месца для любае дачкі пад плакліваю бярозкаю. Уласнаручна зрабіў на медзяной дошчачцы надпіс і прыбіў да крыжа. З таго часу менш хадзіў на соцыялістычныя зборкі. Усё часьцей ды часьцей зьяўлялася яму ў душы і ўяве постаць дачушкі, прамяністая, сьветлая і малітвенна надыхнёная.

Так!.. па сьмерці павінна быць іншае жыцьцё...

У душы адбывалася вялікая барацьба паміж праўдаю Божай і клічамі сьвету, паміж любоўю і ненавісьцю! Ангельская постаць дачушкі, што нясла яму сьвятло, праўду, мір і шчасьце ад Цара Любові, перамагла...

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Гумнішчы,** Гарохаўскага пав. На сьвята Нараджэньня Маткі Божай у Гумнішчах адбылася вялікая ўрачыстасьць: прыехаў да Гумнішч Я. Пр. Япіскап Мікалай. Набажэнства было адпраўлена ў саслужэньні 4 сьвяшчэньнікаў і дыякана. Цэркаўка невялічкая ды вельмі старая, збудаваная ў 1790 годзе, яшчэ ў часы Уніі на Валыні. Апрача сьвяшчэньнікаў усходніх, быў таксама Берастэцкі лацінскі дзекан Кс. Зволінскі. Настаяцелем у Гумнішчах ёсьць а. Гамалііл Перчэклей, вельмі мілы ды гасьцінны сьвяшчэньнік. Людзей была поўная царква ды яшчэ больш ля царквы на цьвінтары.

З Гумнішч на другі дзень у Нядзелю Яп. Мікалай са сьвяшчэньнікамі паехаў да Жабчы. Жабча ўжо мае свайго настаяцеля а. Серафіма Ярашэвіча, які толькі што перанёсься з Краскі. Прыняцьцем гасьцей заняліся самі прыхажанкі. Трэба сказаць, што гэта прыняцьце выпала вельмі добра і міла. Прыхажанам таксама было прыемна, што яны самі частуюць Уладыку ды сьвяшчэньнікаў. Да царквы сабраліся ўсе уніяты ды шмат праваслаўных.

**Кодэнь** ля Берасьця над Бугам. 8 верасьня г. г. на лацінскую ўрачыстасьць Нараджэньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі сабралася шмат людзей; да сьвятой споведзі ды Сьв. Прычасьця прыступіла каля 6000 чалавек Абслужваюць гэта сьвятое месца айцы Обляты. Маюць яны ў Кодэні

2 касьцёлы лацінскага ды усходняга абраду. Настаяцелем касьцёла ўсходня-славянскага абраду ёсьць а. Уладыслаў Лучак, што вясною скончыў сэмінарыю ў Дубне. На вялікую ўрачыстасьць, апрача лацінскіх, зьехалася таксама 3-х сьвяшчэньнікаў усходняга абраду. Вельмі ўрачыста была адслужана 4-ма сьвяшчэньнікамі ўсходня-славянская Сьв. Літургія. Пяяў вельмі прыгожа хор, які складаецца амаль з самых лаціньнікаў. Людзей была поўная царква, каталікоў ды праваслаўных. Навуку ў дзьвёх мовах, парасейску ды папольску, сказаў а. праф. А. Неманцэвіч. Можна спадзявацца, што ў недалёкай будучыні ў Кодэні зарганізуецца вельмі паважная уніяцкая парафія.

**Луцк. Перамены ў духавенстве ўсходня-славянскага абраду.** Новапасьвячаны а. Іоан Волянін атрымаў назначэньне на становішча настаяцеля да Краскі; а. Іоан Гэрматюк перанесены да помачы а. В. Артэм'еву ў Луцк; а. Язэп Гадуцэвіч назначаны настаяцелем да Заставя ля Міжырэчча на Валыні.

**Новы кабінэт у Польшчы.** 12-га кастрычніка, пасьля паседжаньня Рады Міністраў, прэм'ер Славэк падаў Пану Прэзыдэнту Рэспублікі просьбу аб адстаўцы цэлага кабінэту. Пан Прэзыдэнт прыняў адстаўку і даручыў злажыць новы кабінэт міністру ўнутраных справаў М. Зындрам-Касьцялкоўскаму. У склад новага кабінэту ўвайшлі: Уладыслаў Рачкевіч — міністрам унутраных справаў, Бэк Язэп — мін. загранічных справаў, гэн. Каспржыцкі Тадэуш — мін. вайсковых спр , Квяткоўскі Аўгень—міністрам скарбу, Міхалоўскі Чэслаў — мін. справядлівасьці, Хылінскі Канстанты — кіраўнік мін-ва Рэлігійных Веравызнаньняў і Публічнае Асьветы, Панятоўскі Юльян—мін. земляробства і зямельных рэформаў, Гурэцкі Раман—міністрам гандлю і прамысловасьці, Буткевіч Раман — мін. камунікацыі, Яшчолт Уладыслаў — мін. грамадзкае апекі, Калінскі Эміль—мін. поштаў і тэлеграфаў.

**Папраўка няверная камунікату.** Курыя Апостальскай Адміністрацыі для Лэмкаўшчыны папраўляе няверныя ведамасьці, паданыя львоўскаю украінскаю прэсаю, нібыто грэка-каталіцкае насяленьне на Лэмкаўшчыне і далей пераходзіць у праваслаўе. Курыя пацьвярджае факт, што ад часу заняцьця пасады Апостальскага Адміністратара Я. Пр. а. Васілём Масьцюхаю на ўсёй Лэмкаўшчыне ня было ніводнага выпадку адпадзеньня ад Каталіцкае Царквы і пераходу ў праваслаўе, або ў якую-нібудзь сэкту. Якраз наадварот, шмат асобаў у апошнія месяцы вярнулася з праваслаўя ў лона грэка-каталіцкае царквы і навярненьні гэтыя адбываюцца далей.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Справа аб бэатыфікацыі Марыі-Тэрэсы Ледахоўскай, Закладчыцы Содаліцыі Сьв. Пётры Клявэра.** Напэўна няма ў Польшчы нікога, хто ня чуў пра нашу слаўную зямлячку, вядомую сваімі цнотамі і тою падмогаю, каторую яна нясла афрыканскім місіям, закладчыцу Содаліцыі Сьв. Пётры Клявэра, Марыю-Тэрэсу Ледахоўскую памёршую ў Рыме, пры агульным прызнаньні яе сьвятасьці, 6.VI.1922 году.

**Заява Ген. Чанг-Кай-Шэка, зьвернутая да місіянэраў.** Гэнэрал Чанг-Кай-Шэк, галоўны камандзер кітайскае арміі і кіраўнік нанкінскага ўраду, зьвярнуўся да хрысьціянскіх місіянэраў з публічнаю заяваю, у якой заўважае, паміж іншым, што толькі ўплыў хрысьціянства можа ўзмацніць і падняць моральнае пачуцьцё кітайскага народу і што толькі пры падмозе хрысьціянства можа адрадзіцца ў Кітаі новы чалавек. Заява гэтая набірае асаблівага значэньня, калі ўзяць пад увагу варожую пазыцыю гэнэрала ў адношаньні да каталіцызму ў часе вайны ў 1927 годзе. Чанг-Кай-Шэк вёў тады жорсткую барацьбу з місіямі. Рэзультатам гэтае барацьбы было зьніштажэньне шмат якіх цэркваў; у нанкінскім вастрозе былі забіты тады два аа. Езуіты. Цяпер кітайскі дыктатар зьмяніў свой пагляд на ролю хрысьціянства ў Кітаі і будучыню свайго народу ставіць у залежнасьць ад разьвіцьця місіянэрскае работы. Апостальскі вікары з Чунг-Кінгу, япіскап Янт-Цэн адказаў на гэта пісьмом, у якім выказаў жывое задаволеньне з прычыны адносін гэнэрала Чанг-Кай-Шэка да місіяў.

**Сьледам за Саветамі.** 13 чэрвеня г. г. ўвайшла ў жыцьцё ў Турэччыне новая пастанова, выданая уладай ў Ангоры. Гэта пастанова забараняе духоўным усіх веравызнаньняў насіць вопраткі, адрозьніваючыя духавенства ад рэшты грамадзянства. Вопраткі духоўныя можна насіць толькі ў храмах.

Нічога не памаглі пратэсты ані духоўных, ані грэцкай дыплёмацыі проці гэтага распараджэньня.

Туркам ходзіць аб тое, каб на вонку зусім зацёрці ўплыў рэлігіі на жыцьцё грамадзкае.

Адразу паддалося гэтай пастанове каля 1000 зьвяшчэньнікаў, манахаў і манашак, апрануўшыся пасьвецку. Былі аднак і такія, каторыя згадзіліся скарэй пакінуць свае місійныя пляцоўкі і вярнуцца на бацькаўшчыну, чымся пераадзецца ў сьвецкую вопратку.

Здаецца выданы таксама і прыказ, які забараняе вясьці друкам рэлігійную прапаганду.

Гэта было-б ужо далейшым шагам за Саветамі.

З другога боку—слушна трэба прызнаць, — замкнутая у сабе дагэтуль Турэччына шмат ужо зблiжылася да культуры Захаду. Бо вось прыняла ўжо ў пiсьме i друку лацiнскiя лiтары, завяла ў сябе грэгорыянскi календар, перанясла дзень адпачынку з пятнiцы на нядзелю вырвала жанчыну з гарэму i забаранiла многажэнства.

У Ерусалiме—праз пару гадоў г. е. ад сьмерцi праваслаўнага патрыярха Дзям'яна ня было нiякага патрыярха, а новага трудна было выбраць, бо праваслаўны народ, — пераважна Арабы, — хацеў мець Араба, а грэцкая меншасьць традыцыйна ўважала Сьв.Гроб Хрыстоў з маемасьцяю за сваю ўласнасьць i дзеля таго не дапушчала Араба. У канцы усё-жтакi выбраны быў патрыярхам Грэк, мiтрапалiт Iордану Цiмахвей. Выбралi яго самi Грэкi бяз удзелу Арабаў, якiя на знак пратэсту ўхiлiлiся ад выбараў.

З гэтага вiдаць, што ў праваслаўнай Ерусалiмскай Царкве далей ваююць.

**Расейская каталiцкая моладзь.** Цэнтрам, дзе гуртуецца каталiцкая расейская моладзь, ёсьць каталiцкi унiвэрсытэт у Лювэне (Бэльгiя).

Сяньня залажылi там яшчэ „Каталiцкi саюз рускай моладзi" (Католическiй Союзъ Русской Молодежи), якому сьв. Айцец пераслаў сваё багаслаўленьне.

Статут гэтага саюзу мае на мэце выхаваньне рускай моладзi пакаталiцку па розных краёх ды пашырэньне каталiцтва сярод рускiх. Сябрамi саюзу могуць быць хлапцы ад 25 гадоў жыцьця, рускiя каталiкi i iншыя, каторым гэта праца ёсьць па душы.

Саюз хоча згрупаваць рассыпаную па сьвеце рускую моладзь да працы над рэлiгiйным i моральным адраджэньнем Расеi.

Адрэс саюзу: „Association Catalique de la Jeunesse russe Louvain, Belgique. 161, rue de Malines.

**Новае цудоўнае выздараўленьне ў Люрдзе.** Бюро мэдыцынскiх досьледаў у Люрдзе адзначыла новае цудоўнае выздараўленьне сярод ангельскiх пiлiгрымаў, прыбыўшых у Люрд. Дзяўчына Алiцыя Монагам ужо сем гадоў не магла ўстаць з пасьцелi, хварэючы рэўматызмам, сэрцам i почкамi. Факт выздараўленьня будзе зарэестрованы пасьля паўторнага зравiдаваньня ў Мэдыцынскiм Бюры ў Люрдзе, у будучым годзе.



# Усячына.

— У ліпні сёлетняга году ў Кітаі была вялікая паводка, якая заліла 330 000 гэктараў. Шкоды дасягаюць 500 мільёнаў даляраў. Згінула каля 214.000 чалавек, а 10 мільёнаў душ засталося без страхі над галавоюі

— Амэрыканскаму гародніку І. Сорэ ўдалося разьвясьці гатунак грушаў, якія даюць плады без зярнятаў.

— У Кітаі, пры 336-ёх мільёнах жыхароў, 200 мільёнаў ня ўмеюць ні чытаць, ні пісаць. Вялікі процант няпісьменных тлумачыцца труднасьцю вывучэньня кітайскае азбукі, якая складаецца з 6 000 літараў і значкоў.

— Амэрыканец д-р Томас зрабіў інструмэнт, на якім можна іграць пры падмозе праменьняў сьвятла.

— У Злучаных Штатах жыве цяпер 16.271 мільянэраў.

— Адзін амэрыканскі мільянэр, Сіман Кэндаль, атрымаўшы ў маладым веку цяжкія цялесныя пашкоджаньні, захварэў дзіўнаю маніяй. Здавалася яму, што ён увесь складаецца з шкла. Каб ухіліцца ад небясьпекі, ён збудаваў сабе дом, сьцены якога загадаў аблажыць тоўстымі гумовымі пластамі, а ўсе мэблі абіць гумовымі падушкамі. Дактары не маглі вылечыць яго ад гэтае дзіўнае хваробы. Нядаўна ён памёр. У тэстамэнце ён распарадзіўся, каб яго цела было завінута ў вату і пахована ў гумовай труне.

— У апошнія дні ліпня месяца сёлетняга году ў Гдыні спушчаны на ваду новы ваенны карабель „Jaskółka," збудованы цалком у Польшчы. Вадазьмяшчэньне — 185 тоннаў.

— Польшча на падтрыманьне бясьпечнасьці ў краі расходуе ў год каля 150 мільёнаў злотых. Адзін паліцыянт абслужвае 1.113 жыхароў, у Бэльгіі на аднаго паліцыянта прыпадае 86, у Італіі 657, у Нямеччыне 495 жыхароў.

— Лік студэнтаў вышэйшых школаў у Польшчы ў 1933-34 акадэмічным годзе дасягаў 49.725 асобаў, у гэтым ліку 69 процантаў мужчын і 31 процант жанчын.

— Француcкі карабель „Femme" абслужваюць толькі жанчыны. Нядаўна ён выйшаў у мора дзеля спэцыяльных цьвічэньняў.

— У 1934 годзе ў Францыі загінула ад аўтабусных катастрофаў 4.737 чалавек.

— Ваенны інвалід Borussak з Гэйдэльбэргу зрабіў гадзіньнік, усе часьці якога складаюцца з вугля. Гадзіньнік ідзе так сама, як і зроблены з мэталю.

— Нямецкі прафэсар д-р Э. Купфэр з Франкфурту зрабіў электрычны апарат, якім надзвычайна цікава лечыць глухату.

— Паводле ангельскіх аблічэньняў, на сьвеце ёсьць 720 мільёнаў авец, 600 мільёнаў рагатай жывёлы і 300 мільёнаў сьвіней.

— На ангельскім рынку зьявіўся вэлісапэд новае конструкцыі, на якім можна дасягнуць значнае скорасьці.

— У Страсбургу паўстае новы каталіцкі унівэрсытэт.

— У адным з вялікіх складаў збожжа ў Амстэрдаме (Голяндыя) рабілі спробу страшыць мышы і пацукі грамафонам. Рэзультаты аказаліся вельмі добрымі.

— Італьянскі лятун Mario Stoppani праляцеў на аднаматорным гідрапляне, ня спушчаючыся, з Італіі да граніцы Абісініі. Ён праляцеў усяго 4.966 кілёмэтраў, пабіваючы францускі рэкорд на 600 кілёмэтраў.

— Амэрыканец Нільсон збудаваў аднакалёсны мэханічны воз „unyce." Вынаходчык мае надзею дасягнуць на ім вялікае скорасьці.

— Марцін Шэрэр з Акрону (Злучаныя Штаты) выдумаў гадзіньнік, які пяе, грае на аргане, расказвае анэкдоты і інш., а таксама паказвае гадзіны, згодна з часам у 27 вялікіх местах сьвету. Вартасьць гадзіньніка ацэнена на 250.000 даляраў.

— Канадзкае радыё спыніла перадачу рэклямаў у нядзельныя дні, лічачы, што гэтыя дні павінны быць пасьвячаны толькі моральным разважаньням.

У Нью-Іорку 98 процантаў жыхароў маюць радыё.

— Злучаныя Штаты будуюць вялізарны мост даўжынёю 15 кілёмэтраў. Злучыць ён Сан-Францыско з местам Oakland.

— На пачатку гэтага месяца пачалася абісінска-італьянская вайна. Прычынаю гэтай вайны ёсьць з аднаго боку нібыто імкненьне Італіі цывілізаваць „дзікую" краіну Абісінію, а з другога — гушчыня насяленьня ў Італіі, якому трудна пракарміцца на сваёй тэрыторыі і яно шукае сабе новых земляў для калёнізацыі.

Італія доўгі час чулася пакрыўджанай пры падзеле калёніяў пасьля сусьветнае вайны і таму рашылася на вайну з Абісініяй, ад якое у 1896 годзе пацярпела вялікае паражэньне пад Адуяй.

Дзеля таго, што як Італія, так і Абісінія належаць да Лігі Народаў, дык Ліга, згодна з сваім статутам, мусіла пастанавіць аб мірным вырашэньні конфлікту. Італьянскі прэм'ер-міністар Мусоліні не згадзіўся на мірнае вырашэньне справы і пачаў ваенныя крокі. Ліга Народаў прызнала Італію нападаючаю стараною і, паводле статуту, рашыла ўжыць проці Італіі гаспадарчыя і фінансавыя санкцыі. Аднак датарнаваньне гэтых санкцыяў вельмі труднае, бо яно не выключае магчымасьці вайны ў Эўропе.

Тымчасам у Афрыцы ідзе крывавая вайна.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Лістапад 1935 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
| 1 | Ч | Кузьмы і Дзям'яна | 14 | Č | Jozafata |
| 2 | П | Акіндына | 15 | P | Gertrudy. Leapolda |
| 3 | С | Аксосімы | 16 | S | *M. B. Wostrabramskaj* |
| 4 | Н | **Н. 22 па С.** Іоанікія | 17 | N | Ryhora. Salamei |
| 5 | П | Галактыёна | 18 | P | Anieli. Ramana |
| 6 | А | Паўла ісп. | 19 | A | Alžbiety. Maksima |
| 7 | С | Лазара | 20 | S | Feliksa. Waleraha |
| 8 | Ч | Сабор Арх. Міхала | 21 | Č | *Achwiaraw. N. Dz. Maryi* |
| 9 | П | Анісіфара | 22 | P | Cecylii. Stefanii. Marka |
| 10 | С | Эраста | 23 | S | Klemansa. Lukrecyi |
| 11 | Н | **Н. 23 па С.** Міны | 24 | N | Jana ad Kryža |
| 12 | П | Сьвяшчмч. Іозафата | 25 | P | Kacieryny |
| 13 | А | Іоана Залатавусн. | 26 | A | Leanarda z Portu |
| 14 | С | Піліпа ап. | 27 | S | Walerjana. Wirhilija |
| 15 | Ч | Гурыя | 28 | Č | Zdzisławy |
| 16 | П | Матэуша Эв. | 29 | P | Saturnina. Filimona |
| 17 | С | Грыгора | 30 | S | Andreja Ap. i Justyny |
| | | | | | ŚNIEŽAŃ |
| 18 | Н | **Н. 24 па С.** Платона | 1 | N | *Pač. Adwentu.* Elihija |
| 19 | П | Аўдзея | 2 | P | Bibijany |
| 20 | А | Прокла | 3 | A | Franciška Ksaweryja |
| 21 | С | **Ув. у Хр. Пр. Багародз.** | 4 | S | Barbary. Piotry |
| 22 | Ч | Філімона | 5 | Č | Sawwy. Juljana |
| 23 | П | Амфілакія | 6 | P | Mikoły. Dzianisa |
| 24 | С | Кацярыны | 7 | S | Ambrožaha |
| 25 | Н | **Н. 25 па С.** Клімanta | 8 | N | **Biazhreš.Pač.N.Dz.Maryi** |
| 26 | П | Алімпія | 9 | P | Leakadyi i Waleryi |
| 27 | А | Якава Пэрс. | 10 | A | M. B. Loretanskaj |
| 28 | С | Сьцяпана Нов. | 11 | S | Damazaha, Barbary |
| 29 | Ч | Парамона | 12 | Č | Alaksandra. Justyna |
| 30 | П | Андрэя ап. | 13 | P | Łucyi. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.